Жыві, Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№ 216 (229) 6 лістапада 1991 г. Серада. ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.

## Факты Аргументы Коммен-тарии Суждения

### Прокуроры встали... Сели адвокаты

ГОМЕЛЬ. **Сидячая забастовка, которую намечали объявить с понедельника работники городской и районной прокуратур, не состоялась: председатель облсовета Николай Войтенков распорядился финансировать эти органы из местного бюджета.**

Так что зарплату прокуроры, хотя и с задержкой, но получат. Хуже дела у адвокатов. Их деятельность обложили такими налогами, что весь хозрасчет лопнул по швам — и адвокаты забастовали, официально уведомив об этом местные и республиканские органы.

**Анатолий ГОТОВЧИЦ.**

### Путь нашелся. Он давно проторен

МОГИЛЕВ. **Более чем в 2 раза возросла зарплата рабочих и ИТР объединения «Химволокно».**

Учитывая неблагоприятные условия жизни, резкий рост цен, инфляцию, руководство объединения ищет пути дальнейшего увеличения зарплаты своим работникам — до 800 рублей в месяц, повышения компенсации за обед до 5 рублей.

Где взять денег? Источник один — увеличение прибыли, снижение себестоимости продукции. Как говорили когда-то, — за работу, товарищи!

**Николай КОМЛЕВ.**

### Революция отложена до Нового года

ВИТЕБСК. **Сберечь выпивку и закуску до Нового года — такое решение приняла сессия горсовета по злободневному вопросу: отмечать ли в официальном порядке 74-ю годовщину Октября.**

«Нам нечего демонстрировать», — сказал, вызвав молчаливое согласие зала, глава городской власти Николай Федорчук. Впрочем, сессия разрешила революционно настроенным совету ветеранов и женсовету города провести праздничный митинг у памятника вождю на площади Ленина.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### На них теперь надкус имеется...

ПЕРМЬ. **Ответственная работница центрального пищеторга города, выступая перед депутатами, рассказала о новом ухищрении изобретательных покупателей.**

Те из них, кого не устраивает нормированная продажа хлеба, берут неограниченное количество буханок и по пути к кассе надкусывают каждую булку.

**«Урал-акцепт».**

### Злых духов все меньше и меньше...

МОСКВА. **В канун православного праздника Казанской иконы Божьей Матери катакомбная церковь выступила инициатором отпущения тяжких грехов большевикам, хотя была ими же гонима и преследуема на протяжении десятилетий.**

Московская община провела крестный ход покаяния по центральным улицам города, сотворяя моление и отпущение грехов всем своим обидчикам и глумителям. От гостиницы «Россия» крестный ход прошествовал мимо стен Кремля к месту, где в 1931 году был взорван храм Христа Спасителя. Здесь состоялся молебен.

Служители катакомбной церкви решили освятить и еще одно греховное место в столице — знаменитую Лефортовскую тюрьму, где томились узники совести. Здесь, у стен ее, 9 ноября состоятся молебен и крестный ход.

**Фаддей ЛЕОНИДОВ.**

### «Зайцы» в проигрыше

ТЮМЕНЬ. **С 1 ноября каждый горожанин, пользующийся проездным, имеет шанс стать обладателем «Москвича», цветного телевизора, холодильника, стиральной машины, магнитофона, пылесоса или ковра.**

Ежемесячно эти и другие дефицитные товары будут разыгрываться в новой лотерее, организатором которой стала недавно созданная коммерческо - эксплуатационная служба горсовета. Владелец проездного, номер которого окажется выигрышным, получит приз.

**«Урал-акцепт».**

### Вкратце

▲ Госсовет СССР отложил окончательное решение вопроса о структуре и штатах Межгосударственного экономического комитета до своего следующего заседания, которое должно состояться 12 ноября.

▲ Верховный Совет Украины принял закон «О национальной гвардии Украины». Она призвана защищать суверенитет республики, ее территориальную целостность, а также жизнь и личное достоинство граждан, их конституционные права и свободы.

▲ Правительство Молдовы фактически решило вопрос о вводе собственной национальной валюты. Обсуждается вопрос, какое название получит валюта Молдовы—дукаты или леи?

▲ Установлен новый курс рубля для советских туристов, выезжающих за рубеж: теперь за доллар надо платить не 32, а 47 рублей.

### Ельцин заставит нас ходить пешком

**Ноябрьское повышение цен на бензин можно считать чисто символическим.**

Как известно, литр 93-го поднялся в цене на 10 копеек. Этого хватит лишь для того, чтобы покрыть возросшие расходы на нефтепереработку. Кстати, они возросли не сегодня, и Республика Беларусь уже потеряла на разнице цен 7 миллионов.

Прогнозы на ближайшее будущее не радуют. Основной поставщик энергоносителей — РСФСР — на переговорах называет даже цифру 120 долларов за тонну сырой нефти. Это, конечно, худший вариант, но исключать его не приходится. Ведь в самой России и соседних Украине и Литве бензин на государственных заправках зачастую отсутствует, есть он на коммерческих, но по рубль двадцать за литр.

**Владислав ПЛАТУН.**




Рисунок Олега ПОПОВА.

### После уроков — на панель

По данным научно-исследовательской социологической лаборатории Белгосуниверситета, проституция в нашей республике имеет два возрастных пика—17 и 20 лет.

Причем 45,5 процента белорусских путан —студентки, 28,5 процента — школьницы. И те и другие чаще выходцы из неполных семей. Почти четверть из них проживают в общежитиях, а треть—не удовлетворены отношениями с родителями.

Неудивительно, что главным показателем авторитета человека юные «жрицы любви» считают наличие у него денег и фирменных вещей. А 39,5 процента помимо основной «работы» на панели склонны к спекуляции и фарцовке, в свободное время любят смотреть видеофильмы со сценами насилия и секса.

Кроме того, около 10 процентов семнадцати- и двадцатилетних проституток уже успели попробовать наркотики и токсические вещества, а 33,3 процента — злоупотребляют алкоголем.

**Николай ДЕБЕЛО.**

### Приватизация «за так»?

**Очередное решение президиума Моссовета взбудоражило буквально всех жителей столицы.**

После горячих дебатов президиум поддержал предложение его председателя Н. Гончара о безвозмездной передаче москвичам квартир, поскольку приватизация, по словам председателя Моссовета, становится доступной только очень богатым людям. А пострадают от создаваемого чиновниками рынка жилья в основном малоимущие слои населения.

Вопрос о бесплатной передаче горожанам квартир решено вынести на утверждение сессии Моссовета. Перечеркнут ли депутаты финансовые планы мэрии, рассчитанные на огромные суммы от продажи сверхнормативных квартирных метров?

**Леонид ФАДЕЕВ.**

### На ловца и браконьер бежит

**Три работника одного из минских кооперативов отправились в Ганцевичский район, на водохранилище Локтыши побраконьерничать. Клевало. «Жигуль» быстро превратился в автомобиль «Живая рыба», и друзья решили сматывать удочки.**

Но обнаружилось, что аккумулятор машины сел. Толкать до Минска было не с руки.

Друзья вышли на дорогу и тормознули первую попавшуюся машину. Выслушав рыбацкую беду, встречные охотно согласились помочь. Они изъяли рыбу, документы и запрещенные орудия лова. Не повезло горе-рыбакам — их спасители оказались сотрудниками «Белрыбвода».

**Василий САРЫЧЕВ.**

### Табуретовка безопаснее?

БОБРУЙСК. **Врачам не удалось спасти жизнь слесарю кооператива 50-летнему В. М.**

Прямо на рабочем месте он «употребил» тормозную жидкость...

**Николай АНДРЕЕВ.**

### Как и предсказывал Бендер, Запад нам помогает

**4 ноября в Минске с благотворительным грузом — детским питанием, соками, медицинским оборудованием — прибыла группа немцев, представляющих церковную инициативу «Помощь детям Чернобыля Дома встреч Ульма».**

Как сообщили в Белорусском благотворительном фонде «Дзецям Чарнобыля», пожертвования будут распределены среди детей-инвалидов и участников ликвидации аварии на Чернобыльской АЭС.

**«Агентство «БелаПАН».**

«Горячий» телефон 32-24-02 работает ежедневно с 9 до 11 часов.

Беларусь — Кыргызстан

## Вечар, які прынёс згоду



**Урадавая дэлегацыя Рэспублікі Кыргызстан знаходзілася на беларускай зямлі роўна 21 гадзіну 40 хвілін. За гэты кароткі час ад пасадкі да ўзлёту самалёта, улічваючы і ноч, трэба было вырашыць даволі вялікую колькасць пытанняў. Таму, хоць у Мінску даўно скончыўся працоўны дзень, у Доме знешнеэканамічных сувязей, што ў Вайсковым завулку, ярка свяціліся вокны. Тут ішлі міжурадавыя перагаворы.**

Нашы рэспублікі ўжо доўгія гады даволі цесна супрацоўнічаюць. Скажам толькі, што Беларусь штогод пастаўляе Кыргызстану прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння і тавараў народнага ўжытку на суму каля 145 мільёнаў рублёў і вывозіць іх адтуль больш чым на 124 мільёны рублёў.

Па многіх пунктах абодва бакі выказалі пажаданне павялічыць пастаўкі. Ішла гаворка і пра неабходнасць нарошчвання выпуску вострадэфіцытных вырабаў шляхам стварэння сумесных прадпрыемстваў, рэканструкцыі існуючых вытворчых магутнасцей. Гаварылася аб неабходнасці даручыць адпаведным камітэтам, міністэрствам і ведамствам, прадпрыемствам і арганізацыям абедзвюх рэспублік заключыць дагаворы на пастаўку ў 1992 годзе прадукцыі і тавараў да 1 снежня, прычым па магчымасці не ніжэй узроўню, што склаўся, і з улікам збалансаванасці ў коштавым выражэнні.

Зараз паміж міністэрствамі і ведамствамі абедзвюх рэспублік узгадняецца праграма сумесных мерапрыемстваў па паглыбленню і развіццю супрацоўніцтва на 1992 год. Гэтай праграмай прадугледжваецца наладзіць больш цесныя сувязі не толькі ў эканамічнай, але і культурнай сферы. Напрыклад, разглядаецца пытанне аб сумесным будаўніцтве камвольна-прадзільнай фабрыкі па вытворчасці паўшарсцяной трыкатажнай пражы, а таксама бавоўна-прадзільнай фабрыкі ў горадзе Джалал-Абадзе. Ёсць планы па ўкараненню ў вытворчасць сумесных навукова-тэхнічных дасягненняў у галіне аграпрамысловага комплексу. Намячаецца пашырэнне супрацоўніцтва ў галіне спорту і турызму.

Толькі пасля абмеркавання ўсіх гэтых пытанняў прэм'ер-міністр Рэспублікі Кыргызстан Насырдзін Ісанаў і Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч падпісалі міжурадавае пагадненне аб прынцыпах гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. У ім абодва бакі заяўляюць, што гандлёва-эканамічныя сувязі паміж рэспублікамі будуць ажыццяўляцца перш за ўсё прадпрыемствамі, арганізацыямі, установамі і іншымі гаспадарчымі суб'ектамі і органамі дзяржаўнага кіравання ў рамках іх кампетэнцыі і на аснове ўзаемнай выгады. Усе разлікі і плацяжы будуць праводзіцца па цэнах, якія забяспечаць узаемныя інтарэсы. Парадак узаемаразлікаў за прадукцыю і аказаныя паслугі можа вызначацца двухбаковым пагадненнем. Для забеспячэння дакладнасці ўзаемных паставак прадукцыі будзе арганізаваны штоквартальны ўлік і абмен інфармацыяй праз органы дзяржаўнай статыстыкі. Для павышэння зацікаўленасці і адказнасці пастаўшчыкоў будуць прымяняцца эканамічныя стымулы і штрафныя санкцыі.

Асобным артыкулам агаворана, што бакі будуць садзейнічаць стварэнню сумесных прадпрыемстваў, у тым ліку і з партнёрамі, якія размешчаны па-за тэрыторыямі рэспублік. Будуць прымацца меры, якія прадухіляць ажыццяўленне гаспадарчымі суб'ектамі рээкспарту прадукцыі, што пастаўляецца адзін аднаму.

Адпаведныя міністэрствы і ведамствы заключаць дагаворы, падпішуць пагадненні ці пратаколы па самых розных напрамках эканамічнага, навукова-тэхнічнага і культурнага супрацоўніцтва.

Згода паміж урадамі дасягнута. Застаецца планы ператварыць у жыццё.

**Валерый ДРАЗДОЎ,**
**аглядальнік «Народнай газеты» па пытаннях дзейнасці ўрада.**
**Фота Міхася ЖЫЛІНСКАГА.**

## УРАДАВЫ КУР'ЕР

### Пад юрысдыкцыю рэспублікі

Мінская картаграфічная фабрыка страціла маскоўскага гаспадара — Камітэт па геадэзіі і картаграфіі СССР. З 21 кастрычніка фабрыкай кіруе Галоўнае ўпраўленне па вытворчасці дзяржаўных знакаў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Менавіта яно зараз нясе адказнасць за арганізацыю вытворчасці картаграфічнай прадукцыі для задавальнення патрэб суверэннай Беларусі.

### Пашыраецца гаротны спіс

Чарнобыль працягвае сваю чорную справу. На днях беларускім урадам выдадзена распараджэнне аб перасяленні ў 1991—1992 гадах жыхароў шэрагу населеных пунктаў. У гаротным спісе вёскі Смалягоў, Хаменкі, Кіраў Нараўлянскага раёна, Будзішча, Канчары, Цітаўка Клімавіцкага, Клеткі, Дуброўка, Крывая Ніва Касцюковіцкага, Чырваназорны, Сасновіца, Жалезніца, Шалухоўка, Беразякі-1 Краснапольскага і Калюціна Чэрыкаўскага раёнаў.

Жыць людзям у гэтых населеных пунктах болей немагчыма. Чакаемая эфектыўная эквівалентная доза абпраменьвання ў 1991 годзе перавысіць 5 мілізівертаў.

### Пастпрадстаўніцтва ва Узбекістане

У мэтах забеспячэння рэалізацыі пагаднення паміж урадамі дзвюх дзяржаў аб эканамічным, навукова-тэхнічным і культурным супрацоўніцтве і паводле ўзаемнай дамоўленасці вырашана адкрыць Пастаяннае прадстаўніцтва Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Узбекістан.

Пастаянным прадстаўніком Савета Міністраў РБ у РУ прызначаны Аляксандр Косаў.

### Аграрнікам — сваю акадэмію

Створаны спецыяльны аргкамітэт для падрыхтоўкі пытання па заснаванню Акадэміі аграрных навук Рэспублікі Беларусь. У яго складзе 19 чалавек, у асноўным — вядомыя вучоныя.

Прапановы аргкамітэт павінен падрыхтаваць да 15 лістапада.

**Валеры ФЕДАРАЎ.**

У апошнюю хвіліну

## Управа БНФ дае адбой

### Заява Управы БНФ «Адраджэньне»

На антыкамуністычным мітынгу 7 лістапада 1990 года ў Мінску кіраўніцтва Фронту заявіла, што гэты мітынг — апошні ў такі дзень на галоўнай плошчы Беларусі. Аднак сёлета, не зважаючы на няўмольны ход гісторыі, заяўку на мітынг 7 лістапада ля помніка свайму правадыру падалі нефармальныя камуністычныя групоўкі. 7 лістапада — не святочная, а трагічная дата. Дзеля таго, каб у гэты дзень на плошчы ля Дома ўрада не адбыліся цынічныя камуністычныя святкаванні, супраць якіх крычаць душы мільёнаў ахвяр рэжыму, гарадская рада БНФ падала заяўку на свой мітынг.

Па рашэнню Мінскага гарвыканкама, 7 лістапада мітынгаў на плошчы не будзе. Таму БНФ скасоўвае сваю заяўку і просіць гараджан, усіх грамадзян Беларусі 7 лістапада спакойна адпачываць.

**Рада БНФ «Адраджэньне».**
4 лістапада 1991 г.

**Мы папрасілі пракаменціраваць гэтую заяву сакратара рады БНФ Віктара Івашкевіча:**

— Гарадская рада падавала заяўку з адзінай мэтай: не дазволіць на плошчы Леніна правядзенне камуністычнага мерапрыемства. Гарвыканкам, як вы ведаеце, дазволіў абодва мітынгі, але — не на плошчы Леніна. Таму мы палічылі немэтазгодным адрываць людзей ад адпачынку.

В перекрестье мнений

## СУДНЫЙ ДЕНЬ.

### Ожидает ли он коммунистическую идеологию?

**Вышняя рада Национально-демократической партии Беларуси в своем заявлении «О ликвидации остатков коммунистического засилия» предложила провести международный трибунал. Первым возможным шагом в этом направлении названа международная конференция представителей потерпевших народов, провести которую предлагается в ближайшее время в Минске.**

**Как расценивают эту идею лидеры других политических партий и движений? — на такой вопрос «Агентства «БелаПАН» отвечают:**

**Валянцін ГОЛУБЕЎ, народны дэпутат рэспублікі, намеснік старшыні Беларускага народнага фронту «Адраджэньне»:**

— Ідэалогію судзіць нельга. Кожны чалавек мае права выспавядаць любую ідэалогію, абы толькі пад яе прыкрыццём не рабілася злачынстваў супраць людзей. Але можна судзіць тую арганізацыю — як бы яна ні называлася: РСДРП, РКП(б), ВКП(б) ці КПСС, — кіраўнікі якой правакавалі, здзяйснялі або пакрывалі злачынствы. У выпадку з КПСС аналогія з фашысцкай партыяй самая непасрэдная.

Фронт ніколі не звязваў непасрэдна канкрэтных членаў партыі з палітыкай, якую праводзіла яе кіраўніцтва, такія людзі нясуць толькі маральную адказнасць. Але той з членаў партыі, хто асабіста ўдзельнічаў у злачынствах, павінен адказваць перад судом згодна з існуючым заканадаўствам. На мой погляд, ужо наватза шмат падстаў, каб судзіць ім партыю. У тым ліку і за яе дзейнасць у апошнія гады — скажам, як арганізацыю, што выступіла са зброяй супраць законнай улады.

У той жа час КПБ судзіць цяжка, бо яна не існуе як юрыдычная асоба: не зарэгістраваная, не мае ўласнага статута, а КПСС, у якую ўваходзіла беларуская кампартыя, ужо не існуе.

**Анатолий ЖИВОТНЮК, сопредседатель Объединенной демократической партии Беларуси:**

— А время ли? В принципе, я согласен, что судить эту преступную организацию, преступную идеологию надо. Но не очень уверен, что именно сегодня.

**Павел ТУЛУПОВ, член Совета Рабочего союза Бреста:**

— Не возражаю. Суд над ними необходим, потому что все эти притихшие и спрятавшиеся коммунистические лидеры и чиновники остались «у кормушек», они по-прежнему воруют и обманывают, но уже — «в законе», перебравшись в кабинеты исполнительных органов. Присутствуй на таком суде, я предложил бы добиваться запрета на назначение бывших коммунистических работников на руководящие посты в ближайшие пять лет.

**Вячеслав ОСИПЕНКО, второй секретарь Центрального комитета Ленинского коммунистического союза молодежи Беларуси:**

— Трудно сказать.

**Антон КОЗЛОВСКИЙ, председатель Христианско-демократического союза «Воскресение»:**

— Слишком рано заниматься этим. Сейчас есть более насущные проблемы — хотя бы продовольственная.

**Анатолий МАТВЕЕНКО, координатор профсоюза «Рабочая солидарность»:**

— Только когда свершится суд, можно будет сказать, что с этой структурой и с этой идеологией покончено.

Меня сейчас абсолютно не интересует тот факт, что в данный момент деятельность этой партии запрещена. Совершенно очевидно, что КПСС никогда партией не была, это — типичная для тоталитарной системы мафиозная структура, монополизировавшая некогда все сферы общественной жизни. И только тотальное ее уничтожение цивилизованными методами — именно через суд — может положить конец произволу большевиков и их последователей.

**Виктор ЧИКИН, один из организаторов Движения за демократию, социальный прогресс и справедливость:**

— К суду над коммунистами призывали в свое время Гитлер, Муссолини, Пиночет, теперь вот появилась НДПБ. Считаю, что подобным заявлением эта партия ставит себя в один ряд с перечисленными особами.

**Алег ТРУСАЎ, намеснік старшыні Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь:**

— Ідэя правядзення суда ў прынцыпе някепская. Але ў сённяшніх умовах гэта, па-першае, усё роўна, што тузаць дохлага ката за хвост, а па-другое, адцягне людзей ад эканамічных праблем. Хай лепш нацдэмы прапануюць праграму выйсця з эканамічнага крызісу, гэта будзе больш надзённа.

Хаця, пэўна ж, суд над КПСС як злачыннай арганізацыяй у перспектыве непазбежны, больш своечасова займацца гэтым будзе ва ўмовах поўнай незалежнасці Беларусі і стабільнай эканомікі.

**Алег БЕМБЕЛЬ, сябар Управы Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці Беларусі:**

— Пра неабходнасць такога суда мы гаварылі яшчэ 7 ліпеня падчас «круглага стала» на Беларускім тэлебачанні. Тады мы прапаноўвалі наступнае: Вярхоўны Савет і Вярхоўны Суд рэспублікі прымаюць дакументы, сутнасць якіх такая:

1) тое, што натварыў камуністычны рэжым, кваліфікуецца як злачынства супраць чалавецтва і не падлягае «амністыі» з-за тэрміну даўнасці;

2) шэраговыя сябры кампартыі вызваляюцца ад юрыдычнай адказнасці;

3) прапаганда класавай нянавісці, вучэнне аб дыктатуры пралетарыяту прыроўніваюцца да прапаганды вайны, расавай і нацыянальнай нянавісці;

4) аднаўленне разбуранага камуністычным рэжымам, кампенсацыі ахвярам рэпрэсій ажыццяўляюцца за кошт маёмасці КПСС—КПБ.

Я цалкам падтрымліваю ідэю суда над камуністычнай ідэалогіяй, у рамках гэтых названых чатырох пунктаў — мае прапановы.

**Міхась СОБАЛЬ, старшыня Канфедэрацыі працы Беларусі:**

— Разглядаючы любыя грамадзянскія дзеянні як нейкі інструмент задавальнення пэўных інтарэсаў, я намагаюся падтрымліваць толькі тыя з іх, якія, на мой погляд, да месца і своечасовыя. Дык вось, мяне зараз больш цікавяць механізмы дзейнасці незалежных прафсаюзаў, абароны інтарэсаў працоўных у часе планаемай прыватызацыі.

Прапановы правядзення падобных судоў скіроўваюць увагу патэнцыяльных прадпрымальнікаў на вазню вакол ідэалогіі. Я падтрымліваў бы іх толькі ў адным выпадку: калі б на гэткім судзе побач з іншымі сталі старшыня Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Лаўрыновіч ці старшыня афіцыйных прафсаюзаў Ганчарык, былыя члены ЦК КПБ. Я не пытаўся б у іх за ідэалогію, а задаў бы такое пытанне: на якіх падставах яны грошы з фондаў прадпрыемстваў забралі і пераялі ў заснавальныя фонды камерцыйных банкаў, іншых структур новага бізнесу, а цяпер будуць даваць у крэдыт рабочым дзеля выкупу састарэлага абсталявання?

## Вось так і жывём

# Будзьце добрыя аплаціць правоз цела!

**КІРАЎ. Двое кіраўчан, якія ездзілі па запрашэнні за мяжу, трапілі ў аварыю ў румынскім горадзе Орадзя. Адзін з іх загінуў, а другі, па віне якога адбылося сутыкненне машын, прыгавораны да штрафу ў 2.800 долараў (паводле біржавага курсу гэта 154 тысячы).**

Акрамя таго, за вываз цела ў цынкавай труне румынскі бок запатрабаваў 800 долараў. Крэміраванне каштуе 620. Сям'я загінуўшага з цяжкасцю знайшла 50 долараў і з гэтай сумай на свой страх і рызыку накіравалася ў Румынію.

Ці ўдалося вывезці цела і арыштаванага вадзіцеля — пакуль невядома.

# Навошта шукаць вінаватых? Прызначым адказных

**ГЛАЗАЎ. Своеасаблівыя педагагічныя прыёмы прымяняюць настаўнікі школ №2 и № 8. Так, за парадак у класах цяпер адказваюць спецыяльныя камітэты, у якія выбіраюць самых адчайных хлапчукоў.**

Калі хтосьці парушыў дысцыпліну, камітэт ў поўным складзе застаецца пасля ўрокаў адбываць пакаранне. Праўда, ніхто не заручыцца, што на наступны дзень той, хто правініўся, не панясе больш адчувальнага пакарання ад членаў камітэта.

**«Урал-акцэпт».**

# Отдали бы значкисту ГТО!

**Молодежный праздник, посвященный дню рождения комсомола, прошел в Витебском Дворце культуры и техники.**

В конце шумного бала был объявлен приз для того, кто пришел на вечер с комсомольским значком. Но объемный и очень дорогой баллон с импортным прохладительным напитком вручать оказалось некому. Значки попадались, да все не те...

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

# Вот как бывает...

**В прошедшее воскресенье, в 10 часов утра, в Бобруйске случился пожар.**

При включении зажигания произошла вспышка двигателя, —загорелась деревянная обшивка гаража А. Иванова, и от горячей температуры взорвалась находящаяся там канистра с бензином. Осколками этой канистры был убит сосед Иванова по гаражу Владимир Жевняк, который находился в 20-ти метрах от происходящего.

О судьбе самого Иванова в сводке Республиканской дежурной службы пожаротушения не говорится ничего — очевидно, он не пострадал.

# «Сало обменяем на меха. А продотряды встретим!»

**Купить в московских магазинах что-либо съестное, за исключением хлеба, весьма проблематично.**

Хотя, как свидетельствует корреспондент газеты «Мегаполис-экспресс», у крестьян Подмосковья запасов достаточно. Дождемся зимы — и тогда будем менять сало на меха», — рассуждают они, а на вопрос «Не боитесь ли, что пойдут продотряды?» отвечают: «Нет, мы уже научены!»

**«Агентство «БелаПАН».**

# Пресс-досье

**Недавние разоблачения, связанные с финансовой поддержкой КПСС партий в дружественных и не очень дружественных странах, тянут за собой цепочку новых данных, свидетельств и воспоминаний. Очередным звеном этого процесса стали признания бывшего финского коммуниста, секретаря Левого союза Матти Виолайнена.**

**Как поведал Виолайнен, КПСС через своих друзей из левого крыла компартии Финляндии пыталась активно влиять на внутреннюю политическую жизнь Суоми. Так, в 70-х годах финские коммунисты по заданию советских товарищей обязаны были добиваться избрания на пост президента страны некоего Ахти Кариолайнена. По словам Виолайнена, пристрастие Кариолайнена к спиртному делало его в глазах советского руководства более надежным партнером, нежели все остальные претенденты. Впрочем, несмотря на солидную финансовую поддержку «большого брата», выполнить это задание финским коммунистам не удалось.**

***

**Планируемое сокращение личного состава Вооруженных Сил СССР на 700 тысяч человек вызывает обеспокоенность у офицеров Советской Армии. Так, согласно данным Центра социологических и психологических исследований Минобороны СССР, 30 процентов опрошенных офицеров опасаются за свое будущее, а половина офицерского состава вообще не уверена, что после реформ получит реальные гарантии социальной защиты.**

**(Радио «Свобода»).**

## Личный взгляд

# Мы до сих пор живем с гранатою в руке...

**Академик Лихачев, выступая как-то в печати, заметил, что язык наш «великий и могучий» к сегодняшнему времени весьма оскудел. Исчезли из него целые понятия: любезности, например, очарования, восторга.**

**Трудно не согласиться с академиком — понятия эти исчезли прежде всего из самой жизни. Мы ведь стремились совсем к другим идеалам. Помните: «Смело мы в бой пойдем... и как один умрем...»? Сила, воля, борьба и смерть — это были узаконенные символы общества. Были?..**

Говорят, в Японии детей учат различать до 300 оттенков цвета. А во дворе школы, где учится моя дочь, стоит военный самолет-истребитель. Школа носит имя военного. Торжественные линейки в День знаний проходят у ребят в прямом смысле под крылом самолета... Может, думаете, школа с военным уклоном? Вовсе нет. С языковым, английский с первого класса. С явным милитаристским креном, по-моему, наше общество.

— Дарья, ты эту книгу не читаешь, а мучаешь. Неинтересно? — спрашиваю у дочери про «Улицу младшего сына», которую им задали по внеклассному чтению. (Напомню взрослым: книга про пионера-героя Володю Дубинина).

— Понимаешь, все так прямолинейно. Ох, чувствую, что опять здесь грянет война.

В голосе моей шестиклассницы — ирония. Пока ирония. А что будет потом? Нас ведь тоже воспитывали на рассказах о гаврошах двадцатого века, буквально очаровывая борьбой и смертью за идею. «Все, все, что гибелью грозит, для сердца смертного таит необъяснимы наслажденья...» Помню, уже давно всем стало все ясно про Афган, а на войну туда еще просились мальчишки. «А-а, лучше честно, как мужчина, померяться силой с душманами, чем прозябать здесь бесцельно», — говорил мне один доброволец из Волковыска. Как будто война может придать смысл жизни! А красота, гармония, культура, наконец? Но нет, мы научились облачать в героические одежды лишь борьбу и смерть, преподносить лишь их как поступок, как подвиг.

Недавно в прессе промелькнула информация: в молодежной газете «Курьер» города Воткинска ведется рубрика «Клуб самоубийц», где публикуются письма школьников (школьников, подчеркиваю!) с раздумьями о смерти. «Мальчику жизни не жалко, гибель ему нипочем», — это из учебника литературы для 6-го класса, издания 1990 года. Господи, зачем же мы рожаем детей, если потом не учим их главному — дорожить этим миром, любить и понимать его?

Моему другу однажды позвонил мальчишеский голос и сообщил:

— Это из школы, товарищ вашего Антона. Он только что попал под машину!..

Отцу хватило сил добежать до школы. Мужество оставило его после, когда обнаружилось, что звонок — шутка, розыгрыш. Вернее, чья-то подлость и низость.

Наши дети играют в смерть— им что, просто не хватает сильных ощущений? Или неведома цена настоящей смерти — настоящей жизни?

Мы становимся агрессорами — по отношению к себе, к своей собственной душе. В Минске только за год насчитывается около тысячи попыток покончить жизнь самоубийством. По числу суицидов наша страна давно держит первенство в Европе. Сравните цифры: в СССР в 1990 году на сто тысяч человек — 22 самоубийства; в царской России в 1913 году — 3.

Нам плохо, нам трудно, но почему же нас не спасают наши идеалы: сила, воля, борьба?..

Недалеко от оперного театра, в скверике над рекой стоит уникальный в своем роде памятник советской идеологии — мальчик с гранатой. Пионер-герой Марат Казей запечатлен в тот момент, когда он, широко и красиво размахнувшись, вот-вот подорвет себя. Отвага и гордость во взгляде, сила и удаль в движении... Памятник — символ нашей пропаганды, для которой человеческая жизнь — ничто. У подножия этой скульптуры еще совсем недавно проводились самые торжественные сборы и линейки пионеров. Не знаю, как кого, а меня бросает в дрожь от этого мальчика. Героизм? А по-моему, величайшая трагедия общества. «Мальчику жизни не жалко...» Мальчику-то, может, и не жалко, ну, а как же взрослые? Они ведь были рядом. Почему, зачем посылали на верную гибель своих детей? Неужели сами не справились бы с врагом? В нашей стране мифов до правды не докопаться, но... «Бедная власть, которой нужны дети-герои». В городе до сих пор нет памятника величайшему гуманисту-просветителю Скорине, а памятник мальчику с гранатой есть. Парадокс? Или закономерность?

Почему нашей Родине всегда нужнее была наша смерть, а не жизнь?

Иногда мне кажется, что гранаты, которые мы вложили когда-то в руки подростков, взрываются сегодня прямо у нас на глазах. В Троицком предместье (это буквально в двух шагах от памятника) перебиты почти все фонари, перевернуты мусорки, искалечены, изуродованы многие керамические скульптуры. Да только ли в предместье?! Мы искорежили свою землю, потому что всегда по отношению к ней были покорителями, завоевателями. Мы не умеем жить и просто любоваться, наслаждаться, созерцать. Многим из нас мир красоты и гармонии просто неведом, закрыт, потому что его нельзя постичь силой, волей — «гранатой», таким привычным для нас приемом. Но настоящий, истинный мир открывается ведь совсем другим «ключом». Неужели мы навсегда выпустили этот ключ из своих рук, разучились им пользоваться?

**Елена МОЛОЧКО, обозреватель «НГ».**

Фото Сергея Брушко.

## Есць і такая думка

# ГКЧП у грамадазнаўстве?

Сярод шматлікіх пастаноў дзяржаўных органаў розных узроўняў, якія замацавалі перамогу дэмакратыі над таталітарнай сістэмай, сваёй маштабнасцю і рэвалюцыйным зместам вызначаецца рашэнне калегіі Міністэрства народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 26 жніўня 1991 года «Аб задачах органаў адукацыі і навучальных устаноў у сувязі з рашэннем нечарговай V сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 24—25 жніўня 1991 года».

Першыя тры пункты рашэння — аб дэпартызацыі сістэмы Міністэрства народнай адукацыі і навучальных устаноў — не выклікаюць ніякіх сумненняў, бо поўнасцю адпавядаюць рашэнням сесіі і патрабаванням часу. А далей?.. Далей, дзе пайшла гаворка аб выкладанні грамадскіх навук, нягледзячы на знешні радыкалізм і прывабнасць формы, на паверхню вылезлі рысы старой каманднa-бюракратычнай сістэмы, якая гатова заўсёды ламаць лёсы людзей і не думаць аб будучыні грамадства.

Наша міністэрства дзейнічае насуперак і аб'ектыўным патрэбам, і здароваму сэнсу. Яно задумала перавесці «сацыяльна-палітычны цыкл» на факультатыў. Гэта азначае: хочаш вывучай, хочаш не вывучай. Робіцца гэта, зразумела, пад апладысменты пэўных груп тэхнакратаў. Па сутнасці прызнаецца, што гэтыя навукі для светапогляду не патрэбны. Недарэчнасць. Лёс грамадскіх навук аддаецца на водкуп студэнтам, за знешнім радыкалізмам (хто зараз на словах правільна не гаворыць аб неабходнасці прыслухоўвацца да думкі студэнтаў!) робіцца самы сапраўдны замах на паўнацэннае выхаванне моладзі. У тых жа ЗША, дзе стратэгіяй адукацыі займаюцца гільдыі прафесіяналаў, г. зн. самыя аўтарытэтныя і разумныя людзі, добра вядома, што патрэба ў ведах аб грамадстве і чалавеку адчуваецца найбольш моцна ва ўзросце 30 — 33 гадоў. Тады, калі ўжо скончыліся студэнцкія гады, а з імі і магчымасць набыць гэтыя веды ў сістэматызаваным выглядзе. І ці не таму ў навучальных планах самых узорных навучальных устаноў свету — Масачусецкім тэхналагічным і Такійскім політэхнічным інстытутах — доля сацыяльных навук складае 35 — 42 працэнты. І гэта там, дзе студэнтаў рэальна паважаюць і дзе грамадства знаходзіцца ў нармальным стане. ЗША, Японія, Германія — найбольш развітыя краіны свету. І менавіта там найвялікшая колькасць грамадазнаўцаў у галінах эканомікі, філасофіі, сацыялогіі, паліталогіі, псіхалогіі і г. д. Ці выпадкова гэта? Зразумела, не. Карэляцыя паміж развіццём грамадства і развіццём грамадскіх навук відавочная.

Глянем на праблему яшчэ з аднаго боку. Былыя таталітарныя дзяржавы — Германія, Японія, Італія — імкліва пайшлі шляхам трансфармацыі таталітарна-палітычнай культуры да культуры дэмакратычнай. Як гэта ім удалося? Дзякуючы таму, што побач з іншымі фактамі велізарную ролю адыграла ўвядзенне палітычнай навукі (паліталогія) як навукі аб дэмакратыі ў навучальны працэс у школах, інстытутах, універсітэтах. Што можа быць важней за гэта ў нашым становішчы?

Адсюль выснова: Міністэрства народнай адукацыі не можа выконваць функцыю вызначэння стратэгіі ў галіне адукацыі ў неабходным памеры. Гэтую функцыю ў дачыненні да вышэйшай адукацыі магла б узяць на сябе Усебеларуская канферэнцыя рэктараў, якая б дзейнічала на пастаяннай падставе і з невялікім штатам экспертаў-прафесіяналаў па кантракту. А штодзённыя пытанні няхай вырашаюць самі вышэйшыя навучальныя ўстановы. З гэтага будзе большы плён.

**Міхаіл ЯРМАЛІЦКІ, загадчык кафедры грамадскіх навук Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, дацэнт.**

## Нам стала вядома

# Па пуцёўках міласэрнасці

Абласное аддзяленне фонда міласэрнасці сумесна з аб'яднаным аблсаветам галіновых прафсаюзаў выдзелілі 340 бясплатных пуцёвак у месцы адпачынку мала забяспечаным пенсіянерам.

Месцы адпачынку «Пухавічы». «Лясное возера», «Нарач» прынялі першых ільготнікаў. Варта зазначыць, што гэтая акцыя каштавала ініцыятарам каля 40.000 рублёў.

**Анатоль КУЛЯШОЎ.**
Мінск.

# Чакае Вена

Першы намеснік старшыні Дзяржэканамплана Рэспублікі Беларусь Рыгор Вячорка ўзначаліць дэлегацыю Рэспублікі Беларусь, якая прыме ўдзел у рабоце 4-й сесіі Генеральнай канферэнцыі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па прамысловаму развіццю (ЮНІДО).

Сесія пройдзе з 18 па 22 лістапада ў аўстрыйскай сталіцы.

**Фёдар ВАЛЕР'ЯНАЎ.**

## Вяртаючыся да надрукаванага

# Пра «гмбх», «Хенкель» і парфуму

У артыкуле «Ствараючы — перамагаем», надрукаваным у «Народнай газеце» 15 кастрычніка гэтага года, я напісаў: «Першы візіт кіраўніка дзяржавы С. Шушкевіча ў Нямеччыну і спатканне яго там з дзесяціразраднымі бізнесменамі адбылося ў парушэнне элементарных дыпламатычных правілаў, вызначаных для асобаў такога ўзроўню, выклікаў іронію і кпіны ў замежным друку. (Дарэчы, шаноўнаму спадару Шушкевічу нельга доўга прывыкаць да таго, што ён прадстаўляе нацыю і Рэспубліку Беларусь. У кіраўніка дзяржавы больш абавязкаў, чым свабоды)».

Гэта было сказана ў артыкуле мімаходзь і правільна. Але раптам, трэба ж такое здарыцца, прысылае чытач «Народнай газеты» з Бона Крыстаф Мецгер ліст у рэдакцыю, дзе піша, што «господин Позняк, вероятно, умышленно искажает факты. Так как визит в Германию (спадара С. Шушкевіча—**З. П.**) имеет неоценимое значение для развития отношений между Республикой Беларусь и Германией, одностороннее трактование его итогов может нанести невосполнимый вред для их дальнейшего развития и углубления». І далей ідзе падрабязная справаздача спадара Мецгера, які, аказваецца, суправаджаў нашага Старшыню ў паездцы, — «Что дает визит Председателя Верховного Совета Республики Беларусь в Германию? Замечание с немецкой стороны». («Народная газета», 1 лістапада 1991 г.).

Ну, нарэшце. Мы так мала ведалі пра візіт, а тут цэлы рэпартаж з падрабязнасцямі. І чым далей чытаеш, тым больш цікава.

«...Положительный резонанс и симпатии немецкой общественности на визит белорусского лидера, — піша шаноўны спадар Мецгер, — сравнимы лишь с реакцией на посещение Германии в июне 1989 года Михаилом Горбачевым». (Ух ты! Успомнім: «Горбі! Горбі!»). Далей паважаны аўтар прапануе спыніцца «на мотивах прошедшего визита парламентского президента С. Шушкевича, который он совершил в то время, когда лидеры других республик, руководимые националистическими идеями, легко забыли о необходимости международной поддержки...» (Тут нешта я не зусім зразумеў. Можа, паважаны спадар Мецгер меў на ўвазе Старшыню Вярхоўнага Савета Украіны Л. Краўчука, які якраз у гэты час ваяжыраваў з візітам у ЗША, Канаду, Францыю, і сустракаўся з прэзідэнтамі гэтых краінаў. Аднак прычым тут забыўчывасць?)

Зрэшты вернемся да «матываў». Аўтар паведамляе, што фірма «Интернэшнл трэйд маркетинг гмбх»... пригласила С. С. Шушкевича для проведения политических бесед и экономических переговоров...» Дзеля даведкі зазначу, што абрэвіятура «гмбх» абазначае фірму з абмежаванай фінансавай адказнасцю.

Далей яшчэ цікавей. «Фирма «Хенкель», — піша паважаны аўтар, — после визита (С. Шушкевіча — **З. П.**), похоже, всерьез задумалась над организацией в Беларуси крупномасштабных (!) производств моющих средств, а также косметических товаров».

Павінен сказаць, што, пэўна, наш бедны народ будзе рады, пачуўшы планы фірмы «Хенкель». На Захадзе тым, хто працуе на касметычных прадпрыемствах, плацяць павышаную зарплату, бо праца з'яўляецца небяспечнай для здароўя. Вытворчасць мыючых сродкаў, акрамя ўсяго, настолькі экалагічна шкодная, што вялікія тэрыторыі вакол яе могуць увогуле ператварыцца ў нежыццёвыя зоны. Але беларусам не прывыкаць.

Потым мы даведваемся, што паважанага Старшыню Вярхоўнага Савета Беларусі прыняў кіраўнік урадавай адміністрацыі Зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія Е. Раў і абяцаў, што «Беларусь в будущем сможет также рассчитывать на серьезное сотрудничество в лице наиболее крупной в Германии Земли — Северный Рейн-Вестфалия».

Паважаны спадар Крыстаф Мецгер лічыць, што гэта вялікі гонар для кіраўніка беларускай дзяржавы. «Главное же значение состоит в том, — піша ён,—что новая независимая советская (?) республика сделала свои первые самостоятельные шаги на таком уровне, о котором президенты других республик могут только мечтать».

Не ведаю, кім і дзе працуе шаноўны спадар Мецгер, спадзяюся, што не ў цырку, калі суправаджаў нашу высокую дзяржаўную асобу, але ў народзе гэта называецца «трошкі загнуць». Куды ўжо там спадару Краўчуку, які, прадстаўляючы Украіну, спатыкаўся і перамаўляў з Бушам, Малруні, Мітэранам, ці прэзідэнту Назарбаеву, што перамаўляў у Вялікабрытаніі ўсяго толькі з Мэйджэрам, Тэтчэр, прытым не па запрашэнні фірмы «гмбх».

Зрэшты, я не выключаю, што візіт кіраўніка дзяржавы ў нямецкую федэратыўную вобласць (зямлю) меў (ці будзе мець) станоўчыя для Беларусі вынікі. Справа ў іншым. Нельга дапускацца, каб спадар Мецгер лічыў гэта для нашай рэспублікі найвышэйшым узроўнем, «о котором президенты других республик могут только мечтать».

А ўвогуле, мяркую, што паважанаму чытачу «Народнай газеты» лепш зусім не варта было б нічога пісаць у рэдакцыю « с немецкой стороны». Мая заўвага, выказаная ў некалькіх радках, бяскрыўдная і, як бачым, правільная, і не «искажает» ніякія «факты». Гэта нармальная крытыка, якая не прадугледжвае шырокай дыскусіі.

**Зянон ПАЗЬНЯК, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.**

## Ну и ну!

# «А находок в бюро находок теперь нет...»

**— такими словами встретила нашего корреспондента начальник бюро находок при Минском трамвайно-троллейбусном управлении Нина Антоновна Бурдицкая.**

— Я и не знаю, что делается с людьми, — продолжила она. — Чего только раньше не приносили: и сумки, и зонтики, и документы, и деньги, а теперь...

Нина Антоновна показала свой единственный пустой шкаф:

— То ли людям так жить плохо стало, что подбирают все подряд, то ли уже никому и ни во что не верят и не обращают внимания на свою совесть, — но мне кажется, что наше поколение уже никогда не будет приносить найденные вещи.

Нина Антоновна закрыла шкаф. А на улице громыхали трамваи, в них ехали советские люди, люди, которые, наверное, только и мечтают, чтобы где-то что-то найти, достать, добыть...

**Сергей ПЛЫТКЕВИЧ.**

## Улада: каму належыць і служыць?

# Сняцца вуліцы семінары...

Кожную суботу да рэстарана «Зара», што ў цэнтры Слуцка, па вуліцы Парыжскай камуны, пад'язджаюць кавалькады ўпрыгожаных рознакаляровымі шарамі легкавушак. Вяселле! Але перш, чым выйсці на пляцоўку перад рэстаранам, жаніх і нявеста чакаюць, пакуль асядуць густыя клубы пылу, узнятага коламі «волг» і «жыгулёў» — не хочацца пэцкаць вясельныя гарнітуры. Адкуль, спытаеце, у цэнтры горада пыл? Справа ў тым, што гады два назад вуліцу раскапалі. А калі закончылі работы, сяк-так засыпалі траншэю — і ўмылі рукі. З таго часу і глытаюць пыл наведвальнікі рэстарана, а заадно з імі і жыхары навакольных дамоў.

Яны, між іншым, памятаюць не такія ўжо далёкія даперабудовачныя гады, калі вуліца блішчэла глянцам, яе час ад часу асвяжалі палівачныя машыны, а калі паяўлялася на праезджай частцы яміна, як тут жа «латалі». Тады на Случчыне часцяком праводзіліся розныя семінары на рэспубліканскім і абласным узроўнях і іх удзельнікаў з ліку партыйна-гаспадарчай наменклатуры прывозілі на абед у рэстаран «Зара». Вось і стараліся бацькі горада трымаць вуліцу ў «форме». Варта было падзьмуць вятрам перабудовы, калі цікавасць да аглядаў дасягненняў «развітога сацыялізму» паменшылася, і вуліца апынулася на задворках.

І сумна, і смешна. Вось і прарастаюць сярод пэўнай часткі гараджан настроі-надзеі на прыход «моцнай рукі», якая навяла б парадак.

**Міхась КАСТРЫЦКІ.**
г. Слуцк.

# Засядаюць, прымаюць рашэнні, а яны не выконваюцца

Баранавіцкі гарадскі Савет народных дэпутатаў сістэматычна засядае, прымае рашэнні, а яны не выконваюцца. Вось прыклад. У лістападзе 1989 года кіраўніцтва Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі самавольна ва ўрочышчы Гай пачало высякаць сосны. Каля гектара было знішчана лесу. Рашэннем гарвыканкама іх дзеянні прызнаюцца незаконнымі.

Аднак вінаватыя не толькі не панеслі пакарання, але працягвалі ўжо з дазволу сесіі гарсавета ад 22 лістапада 1990 года весці работы.

Сёлета, згодна заяве старшыні гарсавета М. М. Лабко, будаўніцтва санаторыя павінна было спыніцца. Але толькі на словах, а не на справе. Не дапамагло і пісьмовае папярэджанне мэра горада.

Такім чынам, Баранавіцкі гарсавет у чарговы раз паказаў сваю бездапаможнасць, а чыгуначнікі лічаць сябе сапраўднымі гаспадарамі.

**Віктар ШУРЫН, старшыня тэрытарыяльнай дэпутацкай групы гарсавета.**
г. Баранавічы.

# Няўжо пад адзін грэбень стрыжаныя?

73 гады нас прывучалі да таго, што ў нашай свабоднай краіне, дзе так вольна дыхаў чалавек, усе людзі роўныя, пад адзін грэбень стрыжаныя. Яны павінны жыць і думаць аднолькава. А той, хто паспрабуе вылезці, высунуцца, сказаць штонебудзь не так, як прынята, не наш, не савецкі чалавек.

Каму ж хацелася быць адшчапенцам, белай воронай сярод роўных людзей. Кожны стараўся жыць, як усе, нічым асаблівым сябе не праяўляць. Калі ў суседа на двары, да прыкладу, можна ногі паламаць, чаму ў мяне павінна быць лепш? Вось так і дажыліся, што нідзе ўжо няма святога, упарадкаванага месца на гэтай грэшнай зямлі. Ні ў лесе, ні ў полі, ні на рэчцы, ні каля ўласнага двара. Усё засмечана, забруджана, завалена...

Людзі добрыя, не можам мы ўсе аднолькава думаць, дзейнічаць, жыць. Усе мы розныя, розныя, розныя... Па інтэлекту, сіле, здароўю, адукацыі. Кожны з нас не мае аналагаў, унікальны індывідуум. І, значыць, не можа быць ніякай роўнасці. Таму не будзем перашкаджаць адзін аднаму. Кожны няхай шукае і знаходзіць, праяўляе свае здольнасці і талент. Будуе, даглядае жывёлу, разбівае кветнікі, садзіць дрэвы. Галоўнае, каб усё дасягалася сумленнай працай, чыстымі рукамі.

**Тамара МАХТАДУЙ.**
Талачынскі раён.

## Працяг размовы

# Колькі каштуе войска?

Усе незалежныя краіны вымушаны мець свае ўзброеныя сілы. Але іх колькасць, склад, тэхнічная ўзброенасць вызначаюцца не толькі эканамічнымі магчымасцямі, але і доўгатэрміновымі палітычнымі мэтамі, якімі, як вядома, у нас на Беларусі з'яўляюцца нейтралітэт і статут бяз'ядэрнай дзяржавы, што патрабуе глыбокага рэфармавання ўсёй сістэмы нацыянальнай бяспекі. Нейтралітэт абавязвае дзяржаву не ўдзельнічаць у ваенных саюзах і згуртаваннях, не мець на сваёй зямлі вайсковых фарміраванняў іншых дзяржаў.

Бяспека нейтральных дзяржаў гарантуецца міжнароднай супольнасцю. Ім не патрэбны вялікія ўзброеныя сілы і зброя масавага знішчэння. Іх колькасць вызначаецца неабходным узроўнем разумнай дастатковасці.

Звернемся да даных аб адноснай колькасці ўзброеных сіл некаторых еўрапейскіх краін. Так, удзельная вага вайскоўцаў у ліку насельніцтва складае: у Германіі—0,62, Вялікабрытаніі і Аўстрыі — 0,55, Італіі — 0,66, Швейцарыі—0,05, Швецыі — 0,75, Фінляндыі — 0,62 працэнта. У той жа час у былым Савецкім Саюзе гэты паказчык складаў амаль 1,4 працэнта.

На нашу думку, узброеныя сілы Рэспублікі Беларусь могуць быць на ўзроўні 0,5 працэнта ад ліку насельніцтва, або 50 тысяч чалавек. У іх склад павінны ўваходзіць сухапутныя, ваенна-паветраныя сілы, пагранічныя войскі, навучальныя ўстановы і часці спецыяльнага прызначэння.

Ні адна армія не каштуе танна. Выдаткаванні на ўтрыманне арміі Германіі складаюць 32,2, Вялікабрытаніі — 15,2, Францыі — 28,9, Італіі — 16,2 мільярда долараў, што займалі ў дзяржаўных бюджэтах гэтых краін адпаведна ў Германіі 22,2, Вялікабрытаніі — 15,2, Францыі — 16,1, Італіі — 4,6 працэнта. Выдаткаванні на кожнага вайскоўца ў гэтых краінах складаюць 60—100 тысяч долараў у год. Паводле даных «Правительственного вестника» за 1990 г., № 48, выдаткаванні ў разліку на аднаго вайскоўца СССР складалі 17,8 тысячы рублёў у год, у тым ліку на ўтрыманне асабовага складу, жыллёвае будаўніцтва і пенсіённае забеспячэнне — 3,8 тысячы рублёў. Пры камплектаванні арміі на добраахвотнай аснове яны павялічваюцца ў 3,3—4,2 раза. На закупку зброі, тэхнікі, ваеннае будаўніцтва і так далей яны будуць складаць 14 тысяч рублёў. Такім чынам, можна лічыць, што выдаткаванні на ўзброеныя сілы Рэспублікі Беларусь, з улікам узросту цэн у два разы, могуць скласці пры дзеючым заканадаўстве аб камплектаванні 1,8 мільярда рублёў, а пры добраахвотным наборы —каля 3 мільярдаў рублёў.

Заслугоўвае ўвагі пытанне аб рэфармаванні грамадзянскай абароны. Сённяшняя ГА не адпавядае патрэбам часу, асабліва, што датычыць аховы насельніцтва ад вынікаў стыхійных бедстваў, аварый і катастроф. Цяпер гэтымі пытаннямі займаецца шмат органаў, у выніку чаго шуму многа, а вынікаў мала і насельніцтва застаецца неабароненым. Існуючыя службы не маюць сіл хуткага рэагавання. На нашу думку, такія фарміраванні можна стварыць пад адзіным кіраўніцтвам Міністэрства ўнутраных спраў на базе пажарнай аховы і далучэння да яе існуючых штабоў і сіл грамадзянскай абароны.

Неадкладнае вырашэнне гэтых пытанняў будзе рэальным крокам да суверэнітэту.

**Віталь ПАУК, Васіль МАЙСЯЕНАК, Мікола СТАНІСЛАЎЧЫК, кандыдаты эканамічных навук.**

## Услышьте нас...

# Ау, строители, где вы?

1 сентября отрылась наша школа-гимназия. Интересно построен учебный процесс, но вот беда: дети находятся здесь с 8.30 до 17 часов, а столовую до сих пор не открыли. Рабочие ушли, так и не закончив ее. Строительство вело СУ №199 (начальник Масленников), треста № 35 (управляющий Гринко).

Очень просим вас помочь нам, нашим детям и нашим учителям вернуть строителей в нашу школу.

**Родители учеников школы-гимназии № 199 г. Минска.**

